


## Ратаванне бусла

Недалёка ад цэнтра горада на даху старога дома жыве дахавік Казік.

Колькі яму гадоў, ён не памятае, бо дахавікі жывуць вельмі-вельмі доўга, а пасведчанняў аб нараджэнні ў старыя часы не выдавалі.

Носіць Казік старамодны капялюш-цыліндр чорнага колеру, чорны сурдут і чырвоныя штонікі — мода на адзенне ў дахавікоў мяняецца не так часта, як у людзей. Затое мае Казік прыгожыя красоўкі на тоўстай рыфлёнай падэшве і мабільны тэлефончык. У красоўках Казіку вельмі зручна бегаць па коўзкіх дахах, а па тэлефоне дахавік звоніць сваім сябрукам, якія жывуць і ў горадзе, і нават у іншых краях.

Цяпер дахавікоў у нас засталося няшмат, бо людзі панабудавалі дамоў, у якіх плоскія дахі. А дахавікам гэта не вельмі падабаецца. Вось і прыйшлося шматлікім Казікавым супляменнікам перасяліцца ў іншыя краі, у розныя Англіі і Ірландыі. У тых краях акурат тады мясцовыя дахавікі ад'язджалі ў далёкую Амерыку, і вызвалілася шмат месца.

А Казік застаўся дома. І лепшы яго сябар Юзік таксама застаўся. Юзік жыве ў іншым раёне горада, і сустракаюцца яны з Казікам пераважна на іх дахавыя святы. А калі ім становіцца сумна, то яны звоняць адзін аднаму па мабільных тэлефончыках. Шкада толькі, што мабільная сувязь яшчэ дарагая, а грошы ў дахавікоў бываюць нерэгулярна, таму што не бяруць дахавікоў на сталую працу без дакументаў. І пенсію не выплачваюць.

Аднаго разу вырашыў Казік дамагацца пенсіі. Пайшоў у Пенсійны фонд, грукнуў кулачком па стале і запатрабаваў·

— Пенсію давайце! Я грамадзянін рэспублікі! Я Купалу з Коласам няньчыў!

Чыноўніца паглядзела на яго паверх акуляраў і кажа.

— А дакументы ў цябе ёсць, хлопчык? Пашпарт, працоўная кніжка?

Ну адкуль, скажыце, у дахавіка можа быць працоўная кніжка? Так і застаўся Казік без пенсіі.

Аднойчы, на пачатку восені, Казік адпачываў на сваім даху. Там у яго паміж комінам і трубамі ацяплення стаіць маленькі ложак. Казік ляжаў на ложку і збіраўся званіць свайму лепшаму сябру. Раптам у адчыненае дахавае акно заляцела знясіленае бусляня.

Казік даўно жыў на свеце, а таму паспеў вывучыць шмат моў, у тым ліку і буслінyю.

— Хто ты такі і што табе спатрэбілася на маім гарышчы? — спытаўся Казік па-буслінаму, шчоўкаючы язычком.

— Я Бацік. Я ад сваіх адстаў. Мы ў Афрыку ляцелі зімаваць. Я хацеў жабку злавіць, адстаў і вось — згубіўся. Ы-ы-ы! Што я буду рабіць?! Я дарогі не ведаю!

— Як жа табе, беднаму, дапамагчы? А ты нумар татавага мабільнага памятаеш?

— Ага. Па-а-амятаю.

— Лічы, пашанцавала табе, хлопча. Дыктуй нумар.

Прадыктаваў Бацік нумар. Дазваніўся Казік да Бацікавага таты, распавёў, што сын-шалапут у яго цяпер знаходзіцца, і дамовіліся яны, дзе буслы пачакаюць Баціка.

Выцягнуў дахавік свой геаграфічны атлас з-за коміна і растлумачыў Баціку, дзе тое возера, каля якога яго будуць суродзічы чакаць. Потым выпілі яны «Кока-Колы» на дарожку, бананамі закусілі, і выправіўся бусел у шлях. А Казік лёг на ложак і засумаваў. Вырашыў сябру патэлефанаваць, толькі вось грошы на рахунку скончыліся. Яшчэ горш дахавіку зрабілася. Але неўзабаве Казік успомніў, якую добрую справу ён зрабіў, і лягчэй яму стала.

Нечакана ў акно зноў заляцеў Бацік. У дзюбе ён трымаў кашалёк.

— Трымай! — праклекатала бусляня, — на дарозе знайшоў. — Ізноў развітаўся і паляцеў. Гэтым разам назаўжды.

У кашальку дахавік знайшоў шмат грошай. Але наш Казік быў прыстойным і сумленным дахавіком і не мог проста так прысабечыць грошы.

Ён напісаў некалькі аб'яў з такім зместам: «Знойдзены кашалёк з грашыма. Гаспадару можна звяртацца па адрасу: вуліца Замкавая, 29, гарышча, направа каля коміна. Спытаць Казіка».

Увечары дахавік расклеіў аб'явы на слупах і прыпынках.

Цэлы тыдзень прачакаў Казік. Але да яго ніхто так і не звярнуўся па грошы.

Заплаціў тады дахавік за тэлефон, купіў красоўкі ў падарунак Юзіку, бо той даўно аб іх марыў, накупляў усялякіх прысмакаў і пазваніў сябру. Цэлых два з паловай дні піравалі Казік і Юзік. Выпілі бочку квасу, з'елі мех каўбасы. Словам, павесяліліся.

## Казік і тэхніка бяспекі

Казік вельмі любіў глядзець калыханку па тэлевізары. Такая цікавая перадача! У ёй паказваюць мульцікі. А мульцікі Казік, як і іншыя дахавікі, проста абажаў. Усіх гэтых Віні-Пухаў з Пятачкамі, Малых з Карлсанамі, фрэкен Бок.

Да фрэкен Бок у Казіка была нейкая незразумелая любоў. Ён часта казаў свайму лепшаму сябру Юзіку:

— У нас такіх жанчын няма.

Казік нават збіраўся ехаць у Стакгольм, на пошукі фрэкен Бок, і Юзіку прыйшлося прыкласці шмат нама-

ганняў, каб адгаварыць яго ад гэтай не вельмі, на ягоны погляд, разумнай задумы.

Свайго тэлевізара ў Казіка не было, але ён знайшоў выйсце. Ён залазіў на край даху і, быццам акрабат, завісаў уніз галавой каля суседскага акна. Суседскія дзеці ўвечары глядзелі калыханку, і праз акно можна было паглядзець тэлевізар разам з імі. Праўда, прыйшлося доўга прывыкаць да таго, што ў тэлевізары ўсё было дагары нагамі. Але гэта ж дробязі ў параўнанні з асалодай ад прагляду любімай перадачы!

Вось і сёння Казік заняў сваю пазіцыю і павіс уніз галавой, зачапіўшыся за край даху. Дзеці ў зале ўключылі тэлевізар, і па экране забегалі маляваныя героі.

Казік так захапіўся перадачай і развітальнай песняй-калыханкай, што і не прыкмеціў, як заснуў. Прачнуўся ён ад моцнага ўдару і грукату. Бумс! Ён сарваўся і ўпаў на суседскі балкон. Калі б унізе не было балкона, то ніколі больш дахавіку не прыйшлося б яшчэ раз паглядзець калыханку. Засталося б ад яго толькі мокрае месца. Казік гэта ведаў дакладна. Зусім нядаўна ў Казікавым доме з трэцяга паверха вывалілася бабулька, і Казік, седзячы на сваім даху, бачыў, як па яе прыязджалі машына «хуткай дапамогі» і міліцыя.

Успомніўшы гэта, Казік аж затросся.

— Бррр!

Неяк ён дабраўся да свайго даху і патэлефанаваў Юзіку.



Праз паўгадзіны сябар са слоікам ліпавага мёду быў ужо каля ложка Казіка.

— Будзем лячыць цябе мёдам, — сказаў Юзік. — Дапамагае ў дзевяноста дзевяці працэнтах ад любой хваробы.

І сапраўды, раніцай Казік быў як агурочак, бадзёры і вясёлы.

Юзік, які правёў усю ноч побач з сябрам, пачаў яго распякаць.

— Будзеш ведаць, як парушаць тэхніку бяспекі.

— А што такое тэхніка бяспекі?

Казік заўсёды, калі чаго не ведаў, пытаўся ў Юзіка. Юзік шмат гадоў пражыў на даху гарадской бібліятэкі і лічыўся сярод дахавікоў вельмі начытаным і разумным. Ён бы і надалей жыў на бібліятэчным даху, але бібліятэка пераехала ў новы будынак, стары будынак пачалі рэстаўрыраваць, і адтуль прыйшлося з'ехаць, бо рэстаўратары заміналі нармальна жыць.

— Што такое тэхніка бяспекі? — перапытаў Казік.

— Ну як бы табе растлумачыць?

Юзік абвёў позіркам гарышча і, пабачыўшы разетку, праз якую Казік падзараджаў свой мабільны тэлефончык, сказаў:

— Пхай два пальцы ў разетку.

Казік і пхнуў. Пасыпаліся іскры, і цела Казіка пачало біцца ў рытме бугі-вугі. Нарэшце пальцы выскачылі з адтулін разеткі, і дахавік апусціўся далоў. З-пад цыліндра ішоў дым, а на каленках Казікавых штонікаў свяціліся дзіркі. Лоб у Казіка быў увесь мокры.

— Вось гэта і ёсць парушэнне правіл тэхнікі бяспекі, — весела сказаў Юзік. Ён увесь аж ззяў ад таго, што змог так даходліва растлумачыць сябру пра тэхніку бяспекі.

— І што мне з табой рабіць? Тэлевізар — гэта як цукеркі, ты ж ізноў папрэшся сваю калыханку глядзець, — Юзік пачаў задумліва хадзіць узад-уперад. — Табе тэрмінова трэба купіць тэлевізар, — нарэшце сказаў ён.

— Ага. Тэлевізар! Ды ён трыста талераў каштуе! — адказаў Казік.

— Праблема, — пагадзіўся Юзік. — Але я што-небудзь прыдумаю. А пакуль — чао.

## *План*

Сонейка, на якое апоўдні нельга было зірнуць, увечары пачало цьмянець і рабіцца барвовым. Дзень рыхтаваўся да сну, а разам з ім і сонца. Яно пакрысе хавалася за суседнім домам.

Дахавік Казік сядзеў на краі свайго даху, звесіўшы ножкі, і займаўся вельмі сур'ёзнай справай — пускаў бурбалкі.

Казік быў майстрам у пусканні бурбалак. Нават чэмпіён горада, шасцігадовы Янук Ладыжка, не мог выдзімаць бурбалкі такога памеру і такой яскравасці. І толькі інтрыгі арганізатара чэмпіянату па пусканню мыльных бурбалак, які адначасова быў яшчэ і бацькам Янука, не дазволілі Казіку атрымаць медаль чэмпіёна.

Як толькі Казік на чэмпіянаце надзімаў цудоўную бурбалку, Базыль і Юрась — пяцігадовыя агенты Янукова бацькі — стралялі па бурбалцы з трубачак. Кулямі служылі яблычныя зярняткі. Казік ледзь не плакаў ад крыўды і несправядлівасці. Ён вырашыў узмоцнена трэніравацца, каб да наступнага чэмпіянату навучыцца пускаць бурбалкі, якім не будуць страшныя ніякія косткі.

Сонейка хавалася за дом, а Казік сядзеў, пускаў бурбалкі і сачыў, як яны плаўна апускаліся на брук тратуара і пераліваліся ўсімі колерамі вясёлкі. Раптам каля дома прыпынілася таксоўка. З салона «Фальксвагена»

вылез сябар Юзік. На плячы ў яго сядзела варона. Казік прыгледзеўся і пазнаў Карыну, якая была іх агульнай знаёмай.

Юзік і Карына задралі галовы і, прыкмеціўшы Казіка, весела памахалі яму: Юзік — ручкай, Карына — крылом. Праз некалькі хвілін сябры ўжо сядзелі разам, размаўлялі.

— Памятаеш, я казаў, што табе патрэбны тэлевізар? — спытаўся ў Казіка Юзік.

— А як жа, — адказаў Казік і пацёр бок, які ён моцна ўдарыў пры праглядзе калыханкі.

— Ну дык вось, у Карыны ёсць план, як зарабіць грошы на тэлек.

— Так, так, карр, — пацвердзіла варона.

Трэба сказаць, што Карына ніколі не кідала слоў на вецер. Раз сказала, значыцца, сапраўды ведае, як зарабіць трыста талераў. Доўгае жыццё прывучыла варону трымаць слова.

Карына, як усялякая іншая дама, утойвала свой узрост, але ўсе знаёмыя ведалі, што ёй хутка дзевяноста гадоў, і паціху рыхтавалі падарункі на юбілей.

— Значыцца, так, — працягвала Карына, — хутка будзе перапіс насельніцтва, і я дамовілася праз знаёмую варону з мэрыі, што вас возьмуць перапісчыкамі. Аплата 150 талераў. Фотакарткі ў вас ёсць?

— У мяне няма, — ціха сказаў Казік, — я не фотагенічны.

— Не фота які? — перапытала Карына.

— Ну, у мяне заўсёды нос крывым на картачцы атрымліваецца.

— Галоўнае, каб рукі не былі крывымі, бо пісаць прыйдзецца. А крывы нос перапісчыку не зашкодзіць. Тэрмінова сфатаграфавацца!

— А навошта гэты перапіс? — нясмела спытаўся Казік.

Тут да размовы падключыўся Юзік.

— Як гэта навошта? Каб ведаць, колькі трэба дзіцячых садкоў і школак, колькі трэба тралейбусаў і трамвайчыкаў, колькі. Ну, ты зразумеў, Казік?

— Ага. Зразумеў. А вось сабак, мяркую, ніхто не перапісвае.

— Чаму ты так думаеш? — у адзін голас запыталіся Карына і Юзік.

— Каб іх перапісвалі, то наморднікаў у крамах хапала б для ўсіх сабак. А ў нас у двары, вунь паглядзіце, у паловы гаспадароў сабакі без наморднікаў. Неяк мяне адзін баксёр нават укусіў за лытку. Вось я і мяркую, што сабак не перапісваюць.

— Які ты, Казік, разумны, карр, — сказала Карына.

— Геній! — захапляльна дадаў Юзік.

Сонейка схавалася за суседні дах. Дзень скончыўся, і сябры, дамовіўшыся сустрэцца зноў, развіталіся.

## *Героямі не нараджаюцца*

Казік прачнуўся ад пілікання тэлефончыка. Не расплюшчваючы вачэй, ён намацаў мабілку.

— Казік слухае.

— Спіце, пан пажарны? — у слухаўцы зарагаталі, — Юзік ля апарата. Давай хутчэй падымайся, мы з пані Карынай цябе абчакаліся.

Казік падхапіўся і пачаў мітусліва гойсаць па гарышчы, збіраючы адзенне і запіхваючы ў рот печыва.

Праз паўгадзіны сябры ўжо былі ў мэрыі. Карына засталася на вуліцы, матывуючы нежаданне ісці разам з сябрамі тым, што яна, маўляў, сёння кепска выглядае.

Дахавікі блукалі па мэрыі, можа, з гадзіну, пакуль, нарэшце, не натыкнуліся на дзверы з шыльдай «ГАЛОЎНЫ ПЕРАПІСЧЫК».

Юзік прачыніў дзверы, і яны зайшлі ў кабінет.

За вялікім бліскучым сталом, на якім стаяла мноства розных прычындалаў, сядзеў маленькі вусаты чалавек.

— Добры дзень, — сказаў Казік.

— Дзень добры, — адказаў вусач. Ён падняўся з-за стала і, падышоўшы да дахавікоў, працягнуў руку·



— Галоўны перапісчык.

Казік пацiснуў яму руку і адрэкамендаваўся:

— Казімір.

Юзік таксама павітаўся і сказаў·

— А я Юзік.

— Начуты, начуты, як жа, — прабасіў Галоўны перапісчык. — Ну што ж, панове, зоймемся інструктажам.

Назаўтра раніцай сябры прыступілі да перапісу. Ранак быў пахмурны, імжэў дождж. Першым на іх шляху быў дом нумар 13 па вуліцы Каротка-бродскай. Дахавікі з варонай падышлі да пад'езда. За імі да дома наблізіўся бамбіза ў цёмных акулярах. Галава ў бамбізы была лысая і круглая, як більярдны шар, а твар з поўсцю трохдзённай даўніны расплываўся ў інтэлігентнай усмешцы.

Казік націснуў піпачку дамафона.

— Хто там? — данеслася з дамафона.

Дахавік прыўзняўся на дыбачках і крыкнуў у мікрафон:

— Гэта мы! Перапісчыкі!

«Пілім-пілім», — раздаўся гук, і дзверы адчыніліся.

Перапісчыкі падняліся на другі паверх і пазванілі ў дзверы кватэры. Ім адчыніла гаспадыня — мажная кабета ў фартуху.

— Заходзьце, калі ласка, — амаль дзявочым голасам прапанавала гаспадыня.

Перапісчыкі зайшлі ў вітальню. І тут раптам. Раптам прагучаў хрыпаты голас:

— Усім заставацца на сваіх месцах! Гэта рабаўніцтва!

Хрыпаты голас належаў лысаму бамбізу, у руках ён трымаў велізарны пісталет.

— Я сказаў, рабаўніцтва! — нядобра паўтарыў лысы.

Пачуўшы гэта, гаспадыня і Юзік сінхронна страцілі прытомнасць. Плюх! — грукнуўся на падлогу Юзік. Ба-бах! — а гэта гаспадыня.

Казік нечакана для сябе ўпіўся зубамі ў руку лысаму рабаўніку. Сківіцы сціснуліся, быццам у бультэр'ера, толькі пасля гэтага Казік услед за Юзікам і гаспадыняй страціў прытомнасць. Рабаўнік, які не чакаў такога развіцця падзей, выпусціў пісталет і заскуголіў ад болю:

— А-а-ааа!!!!

Але Казікавы зубы ўчапіліся моцна.

Тут варона Карына імгненна прадубліравала Казікаў укус кантрольным дзяўбком у лоб лысага. Бамбіза яшчэ трошкі паскавытаў-пазавываў ад болевага шоку і, страціўшы прытомнасць, таксама грукнуўся на падлогу. Справа была скончана.

Калі міліцыя, выкліканая суседзямі, ўвалілася ў кватэру, на падлозе ляжалі чатыры непрытомныя целы, і толькі варона Карына пераможна махала крыламі, выгукваючы пры гэтым:

— Карр! Каррр!!!

Інспектар міліцыі зірнуў на нерухомага бандыта і радасна сказаў·

— Знаёмы твар!

Як аказалася, гэта быў жулік па мянушцы Глобус, аб'яўлены Інтэрполам у міжнародны вышук. Глобус займаўся рабункам цацак і дзіцячых кніжак. Доўгі шлейф злачынстваў цягнуўся за ім па цэлай Еўропе. Сотні дзяўчынак і хлапчукоў засталіся праз бандыта без любімых цацак. Нават пісталет у Глобуса быў вадзяным. Ён яго адабраў у беднага іспанскага хлопчыка. І толькі дзякуючы Казіку і Юзіку з Карынай удалося пакласці канец Глобусавым злачынствам.

На наступны дзень у будынку гарадской міліцыі шэф міліцыі ўзнагародзіў Казіка, Юзіка і Карыну значкамі «Ганаровы міліцыянт», а прадстаўнік Інтэрпола абвясціў аб прэміі ў 500 талераў для герояў. Цяпер тэлевізар быў дакладна ў Казікавай кішэні.

## Новы сябар

Пасля кароткай ночы прыйшла звычайная летняя раніца. На вуліцах і завулках горада лянотна пазяхалі каты. Горад яшчэ спаў, і толькі дворнікі шкрабалі сваімі дзеркачамі па бруку і асфальце тратуараў. Шурх-шуррх, шухх-шух, неслася з усіх бакоў у празрыстай ранішняй цішы. Раз-пораз пад вокнамі старых камяніц павольна прапаўзалі першыя тралейбусы з нешматлікімі заспанымі гарунамі-пасажырамі.

Дахавік Казік салодка соп у сваім маленькім ложку, які стаяў на гарышчы стогадовага дома ля такога ж стогадовага коміна. На антэнных кабелях, што аблытвалі бэлькі, быццам павуціннне, віселі Казікавы штонікі і сурдут. Дахавік сніў каляровы сон, у якім ён падарожнічаў з аднаго даху на другі па чароўнай вясёлцы, як па мосце. Вясёлка выгіналася велізарнай дугой па-над горадам, і з яе гарба адкрываўся шыкоўны краявід. Казік стаяў на вясёлцы і глядзеў уніз, на чырвоныя, зялёныя і шэрыя дахі, на тэлевежу, якая сваім шпілем даставала амаль да вясёлкі, на рэчку,

што з вышыні здавалася тоненькай стужкай, на зеляніну дрэў. Побач з Казікам праплывалі белыя пухавікі-аблачынкі.

Сон быў такі цудоўны, што Казіку нават не хацелася прачынацца. Але спрацаваў таймер тэлевізара, і гарышча ахутала бадзёрая музыка ранішняй тэлегімнастыкі. На экране сімпатычныя дзяўчаты выраблялі складаныя па. Казік хацеў быў паляжаць яшчэ пад коўдрай, але яго ногі задрыгаліся ў рытме музыкі. Хоцькі-няхоцькі, давялося падымацца і для парадку зрабіць некалькі простых рухаў, каб ногі і рукі супакоіліся. Пасля зарадкі дахавік умыўся, паснедаў кавай і булачкай з маслам, пачысціў зубы. Пасля гэтага ён падняўся па драбінках на дах і сеў з краю, звесіўшы ножкі.

Пасля сняданку ўсе адпачываюць па-рознаму: адны чытаюць газету, іншыя глядзяць тэлевізар, а вось Казік любіў сядзець на краі даху і нічога не рабіць. Проста сядзець і глядзець навокал. Перад Казікам рассцілалася цудоўная панарама горада: стромыя чырвоныя дахі старых камяніц, мудрагелістыя флюгеры, алоўкі хмарачосаў. Вунь праз некалькі дамоў стаіць былая воданапорная вежа, невядома калі перабробленая ў звычайны жылы дом. А вунь бачна белая званіца касцёла Святога Францішка. Знаёмы краявід.

Тут на гарышчы зазвінеў Казікаў тэлефончык. Званіў сябар Юзік.

— Прывітанне, гультай! — са смехам прамовіў Юзік.

— Ад гультая чую, — парыраваў Казік. — Як справы, што чуваць у свеце?

— У свеце крызіс і нестабільнасць. Еўра падае, даляр расце, — паведаміў Юзік, — я тут на абмене грошай трохі нажыўся, дык можа, куды-небудзь за горад выедзем — адпачнём, грошы распусцім? Тым больш заўтра Купалле.

— А што, давай, — узрадаваўся Казік, — толькі давай з сабой і Карыну возьмем. А то старая ўжо забылася, калі на прыродзе была.

— Згода.

Дахавікі дамовіліся сустрэцца назаўтра раніцай на аўтобусным вакзале.

Калі Казік дабраўся а дзевятай да аўтавакзала, Юзік і Карына ўжо чакалі яго ля цэнтральнага ўвахода. Юзік быў з заплечнікам, у якім было навалам усялякай смакаты.

— Ну што, пайду квіткі купляць, — сказаў Казік.

— Мне не трэба, — сказала Карына, — я прынцыпова езджу без квітка.

— Вольнаму воля, — прамовіў Казік і пайшоў па квіткі для сябе і для Юзіка.

Пачынала прыпякаць. На трэцяй пляцоўцы, ад якой адпраўляўся аўтобус сяброў, набралася багата народу. Падышоў аўтобус, і пасажыры пачалі заходзіць у расчыненыя дзверы. Але Карына, апярэдзіўшы ўсіх, улезла ў салон самай першай і, ускочыўшы на месца каля акна, пракаркала дахавікам:

— Хутчэй да мяне!

Сябры ўселіся побач з Карынай. Псс-с! Дзверы зачыніліся, і аўтобус пакаціў за горад. На першым жа загарадным прыпынку ў аўтобус зайшла кантралёрка і пачала правяраць квіткі ў пасажыраў. Кантралёрка брала квіток, глядзела дату і нумар рэйса і шчоўкала кампосцерам. Падышоўшы да сяброў, яна праверыла квіткі ў Казіка і Юзіка, потым звярнулася да Карыны:

— Ваш квіток.

Карына глядзела ў акно, быццам не чула.

— Ваш квіток, — гучней прамовіла кантралёрка.

— Га? — Карына прыкінулася глухой.

— Квіток! — яшчэ гучней сказала кантралёрка, пры гэтым адно яе вока чамусьці застаргалася.

— Пенсіянерка я, — адказала ёй варона.

Але кантралёрка і не думала здавацца:

— Плаціце штраф, а то высаджу з аўтобуса.

Грошай у вароны не было, таму плаціць за яе штраф прыйшлося дахавікам. Як тут не заплаціш?

— Я аддам. Я аддам вам гэты талер, — нудзілася ўсю астатнюю дарогу Карына. — Даруйце мне.

Сябры выйшлі з аўтобуса на перадапошнім прыпынку і вузкай сцяжынкай накіраваліся праз лес да возера. Надвор'е было цудоўнае. Дахавікі ішлі і весела гаманілі, а Карына з сумным выглядам ледзь валаклася за імі. Калі кампанія прайшла з паўкіламетра, наперадзе пачуўся нейкі шум. З-за дрэў выскачыў невялікі сабака незразумелай пароды і кінуўся да сяброў.

— Схавайце мяне, калі ласка! — забрахаў сабака, — з мяне хочуць зрабіць шашлык!

Казік стаяў у разгубленасці, але Юзік ужо скінуў заплечнік, і сабака ўскочыў туды з хуткасцю маланкі. Толькі паспеў Юзік закінуць заплечнік за спіну, як да іх падбег велізарны мужчына з чорнымі валасамі і такімі ж чорнымі вусамі.

— Вы не бачылі тут майго сабакі? Уцёк, халера!

— Бачылі, — адказаў Юзік. — Ён пабег у лес, вунь туды, — Юзік паказаў у той бок, адкуль яны прыйшлі. Калі мужчына знік, Юзік зняў заплечнік.

— Дзякуй, — сказаў сабака, калі вылез з заплечніка. — Вы мяне ўратавалі.

Так у Казіка, Юзіка і Карыны з'явіўся новы сябар — сабака Маркіз.

І чатыры постаці весела рушылі ў бок возера — насустрач сваім новым прыгодам.



*Малюнкі Мікалая КАЗЛОВА*